ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 32 (2486)

8 жніўня 1996 г.

Выдаецца з 1955 г. Цана 1000 рублёў.

## ТАКОЕ НЕЗВЫЧАЙНАЕ СВЯТА - ДЗЕНЬ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ





"Час, які мы перажываем, нялёгкі. Таму і свята наша пакуль што сціплае". Так сказаў пра Дзень незалежнасці Беларусі яе Прэзідэнт А.Лукашэнка, выступаючы 26 ліпеня на ўрачыстым пасяджэнні, прысвечаным шостай гадавіне з дня прыняцця Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце.

"Сёння мы будуем незалежную беларускую дзяржаву, зберагаем найкаштоўнейшую сувязь часоў, свята пававажаючы нашу родную нацыянальную культуру. У той жа час мы шануем пачуццё брацкай дружбы з суседнімі народамі, якое глыбока ўкаранілася ў душах і сэрцах беларусаў. Стварэнне Супольніцтва Беларусі і Расіі выспела ў нетрах народаў як настойлівае патрабаванне часу, як праяўленне народнага пратэсту супраць штучнага разбурэння вялікай краіны. Праз наша Супольніцтва мы будзем мацаваць суверэнітэт і незалежнасць беларускай дзяржавы, не страчваючы ні адзінага каменя ў нашай дзяржаўнай самастойнасці і свабодзе", -- заявіў Аляксандр Лукашэнка.

Завяршаючы сваё выступленне, Прэзідэнт падкрэсліў: "Мы настойліва і самаадданна будзем будаваць наш агульны Беларускі Дом, шчаслівае жыццё для ўсіх жыхароў нашай незалежнай краіны. Мы не схілім галовы перад выпрабаваннямі і цяжкасцямі, паколькі мы -- беларусы. Мы цвёрда верым, што сваёй працай наблізім час, калі не толькі сонца загляне і ў наша аконца, але шчасце і дабрабыт прыйдуць у кожны дом і кожную сям'ю, трывала асталююцца на ўсёй беларускай зямлі".

Такім быў афіцыйны бок свята, якое прайшло сапраўды надта сціпла.

Неафіцыйнае свята вылілася ў 10-тысячнае шэсце і мітынг ля Палаца спорту пад лозунгам "За незалежнасць!".

**НА ЗДЫМКАХ:** урачыстае пасяджэнне ў Мінску, прысвечанае Дню незалежнасці Беларусі; шэсце да Палаца спорту, арганізаванае Аб'яднанай грамадзянскай партыяй, Беларускім народным фронтам, Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыяй.

**Фота Яўгена КАЗЮЛІ і Віктара СТАВЕРА.**

*(Заканчэнне фотарэпартажу на 8-й стар.).*




## ДЫСКУСІЯ

**У адным з перадапошніх нумароў "Голасу Радзімы" было надрукавана інтэрв'ю з гісторыкам, прафесарам Пятром Петрыкавым. Калі чытачы памятаюць, сярод іншага П. Петрыкаў у сваім выступленні выказаў шэраг заўваг у адрас Інстытута гісторыі Акадэміі навук Беларусі і асабіста дырэктара Міхаіла Касцюка. Рэдакцыя добра разумела дыскусійны характар тэмы і чакала, што размова будзе працягнута. Так яно і здарылася. Сёння мы змяшчаем гутарку з доктарам гістарычных навук, прафесарам, членам-карэспандэнтам АНБ Міхаілам КАСЦЮКОМ.**

# ПАЛІТЫЗАВАНАЯ ГІСТОРЫЯ НЕ МОЖА БЫЦЬ САПРАЎДНАЙ НАВУКАЙ

**-- Міхаіл Паўлавіч, што цяпер адбываецца ў беларускай гістарыяграфіі?**

-- Спачатку можа ёсць сэнс крыху сказаць, чаму гісторыкі, прынамсі, абсалютная іх большасць, зараз сталі асабліва актыўна працаваць над тым, каб пашырыць веды пра мінулае. У апошнія гады з цяжкасцю, але доступ да новых матэрыялаў, у першую чаргу архіўных, паступова пашырыўся. Новыя пласты дакументаў зусім па-іншаму высвецілі многія праблемы. Так, раней мы ведалі пра асобныя "складаныя" факты, падзеі, але не маглі іх даследаваць: архіўныя матэрыялы былі скрупулёзна адсартаваны. Тое, што патрабавалася афіцыйнымі ўладамі, пацвярджала лінію ў палітыцы, -- калі ласка, карыстайцеся. Астатняе -- пад замок.

**-- Хто займаўся такой сарціроўкай? Гісторыкі?**

-- Магчыма, гэта адбывалася з удзелам некаторых гісторыкаў. Але, у першаю чаргу, даную працу праводзілі адпаведныя службы.

Аднак вярнуся да сваёй папярэдняй думкі. Магу з упэўненасцю сцвярджаць: мае калегі і гады назад працавалі сумленна, імкнуліся весці даследаванні як мага аб'ектыўна, але зыходзіць ім даводзілася разам з метадалагічнымі ўстаноўкамі з той дакументальнай базы, што была ў руках. Калі ж здарылася мажлівасць зазірнуць туды, куды раней іх не пускалі (а нашы спецсховішчы даволі багатыя), высветлілася: нават прафесіяналы шмат чаго па сваіх перыядах не ведалі. І натуральна, мы пачалі актыўна пісаць пра гэта, асэнсоўваць новыя матэрыялы -- па гісторыі ўвогуле і па гісторыі Беларусі найперш, імкнуліся хутчэй давесці іх да чытача.

У той жа час у станоўчага, прагрэсіўнага працэсу пашырэння і паглыблення гістарычных ведаў намеціўся своеасаблівы негатыўны бок. За новыя матэрыялы таксама ўхапіліся і гісторыкі-аматары, публіцысты, якім не хапала сапраўднага ведання методыкі гістарычных даследаванняў, у першую чаргу строга дакументальных падыходаў. Канешне, падобная цікавасць цалкам заканамерная. Аднак у выніку таго, што шмат у якіх напрамках пайшлі і непрафесіяналы, было зроблена нямала памылак, дапускаліся перахлёсты, якія неабходна папраўляць. Эмацыянальнае асэнсаванне несумяшчальнае з гістарычнай навукай.

Мне ўяўляецца, што разважаць пра новыя падыходы ў навуцы, аб'ектыўную гісторыю мае маральнае права толькі той, хто папрацаваў з раней недаступнымі першакрыніцамі. На жаль, з асабліва рэзкай крытыкай у адрас менавіта такіх гісторыкаў выступаюць тыя, чыя нага за апошнія 15-20 гадоў нават не пераступала парог архіва. Ім нявыгадна зараз хадзіць туды, бо калі пазнаёмяцца з новымі матэрыяламі, то трэба мяняць уласны пункт гледжання, а рабіць гэта яны не хочуць з палітычных меркаванняў.

**-- У тым, што ў гістарыяграфіі паднялася новая хваля процістаяння пазіцый, ці не "заслуга" ўлады?**

-- Не хацелася б так думаць. Калі параўноўваць былыя часы і цяперашнія , я ўпэўнены: тады зададзенасць у многіх адносінах праз партыйныя механізмы была больш жорсткая. У апошнія гады, і гэта трэба адзначыць, назіралася адчувальная ідэалагічная і цэнзурная адліга. Але засталася невялікая, аднак дастаткова агрэсіўная частка гісторыкаў, якіяімкнуцца ўсё захаваць на колішнім партыйным узроўні.

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

## ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

АФІЦЫЙНАЯ ХРОНІКА





Кароткая сустрэча Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі з міністрам замежных спраў Ірана Алі Акбарам Велаяці адбылася 31 ліпеня.

У ходзе сустрэчы абмяркоўваліся ў асноўным пытанні эканамічнага супрацоўніцтва. Прэзідэнт выказаў сваю зацікаўленасць у руху прадукцыі беларускіх прадпрыемстваў, перш за ўсё машынабудаўнічых, на іранскі рынак.

Кіраўнік іранскага знешнепалітычнага ведамства перадаў Аляксандру Лукашэнку запрашэнне ад прэзідэнта Ірана наведаць гэтую краіну з візітам у зручны для яго час.

НА ЗДЫМКУ: у час сустрэчы.

ЗАЯВА МЗС БЕЛАРУСІ

### ВАКОЛ ПРАБЛЕМЫ ПАЗНЯКА--НАВУМЧЫКА

Згодна з распаўсюджанай у ЗША інфармацыяй, беларускія грамадзяне, дзеячы Беларускага народнага фронту Зянон Пазняк і Сяргей Навумчык падалі заявы ў Службу іміграцыі і натуралізацыі ЗША з просьбай прадаставіць ім палітычнае прыстанішча ў Злучаных Штатах.

Як стала вядома, яны абгрунтавалі свой зварот быццам бы існуючай пагрозай іх жыццю на Беларусі, звязанай з іх палітычнымі поглядамі.

У гэтай сувязі Міністэрства замежных спраў рэспублікі прыняло заяву, у якой падкрэслівае, што няма ніякіх падстаў сцвярджаць, быццам у адносінах да З. Пазняка і С. Навумчыка існуе пагроза палітычнага або фізічнага ганення. Рэспубліка Беларусь, гаворыцца ў заяве, свядома прыняла на сябе абавязацельствы па абароне асноўных грамадзянскіх правоў і свабод і робіць усе намаганні па іх дакладнаму выкананню.

Міністэрства замежных спраў лічыць, што зварот Зянона Пазняка і Сяргея Навумчыка з просьбай аб палітычным прыстанішчы перш за ўсё накіравана супраць добрых адносінаў, якія ўсталяваліся паміж Беларуссю і ЗША, і не мае пад сабой ніякіх грунтоўных юрыдычных або палітычных падстаў.

ПАЛЕССЕ, НОВАЕ ПАПІНА



Акуратныя, гаспадарлівыя людзі, якія любяць прыгажосць, жывуць у вёсцы Новае Папіна Драгічынскага раёна. Каля шасцідзесяці дамоў вёскі прызнаны мясцовым сельскім Саветам як дамы ўзорнага парадку. Што гэта такое, можна пераканацца на прыкладзе сям'і сельскіх працаўнікоў Сцяпана і Раісы Наумаўцоў. Іх сядзібу ўпрыгожваюць шматколернасць клумбаў, дэкаратыўных кустоў і фруктовых дрэваў. А ў цэнтры гэтага аазіса -- арыгінальны невялікі басейн. Тут заўсёды чыстая, празрыстая вада, дзе плешчуцца некалькі дзесяткаў рыбак.

НА ЗДЫМКУ: Раіса НАУМАВЕЦ з дачкой Валянцінай ля свайго басейна.

ГРАМАДСКІ РУХ

### ЖАНОЧАЯ СУПОЛЬНАСЦЬ

Беларуская жаночая супольнасць -- новае рэспубліканскае грамадскае аб'яднанне. Прэзентацыя яго прайшла ў Пятрышках, што пад Мінскам, бо БЖС вырасла з мясцовай жаночай арганізацыі з мілай назвай "Адданасць". Цяпер гэта агульнарэспубліканская структура, якая не абмяжоўваецца сталіцай, а наадварот, аб'ядноўвае жанчын з мноства вёсак і малых гарадоў краіны.

Узначальваюць арганізацыю педагог Наталля Істоміна -- старшыня БЖС, намеснікамі з'яўляюцца вядомы гісторык Ніна Стужынская і Валянціна Лявоненка, кіраўнік адной з фермерскіх гаспадарак Смаргоншчыны. БЖС будзе працягваць культурна-асветніцкія акцыі, аздараўленне хворых дзетак, вывучаць сямейную праблематыку.

ЗАПЫТ

### ЧАМУ ЗАБАРОНЕНА?

Прафсаюз аўтамабільнага і сельскагаспадарчага машынабудавання накіраваў запыт у Генеральную пракуратуру і пратэст -- у Кабінет Міністраў з нагоды рашэння Мінскага гарвыканкома, які забараніў прадстаўнікам прафсаюза праводзіць пікетаванне рэзідэнцыі Прэзідэнта.

У ходзе пікетавання прафсаюзы мелі намер дабіцца ад Прэзідэнта падпісання прынятага парламентам 21 чэрвеня закона па наданню зарплаце статуса першачарговага плацяжу. Сваю забарону Мінгарвыканкам матываваў тым, што правядзенне акцыі ля будынка адміністрацыі Прэзідэнта нібыта "непазбежна прывядзе" да перашкод транспартнаму руху.

СІТУАЦЫЯ

### НАСТАЎНІКІ БЕЗ ГРОШАЙ

Як паведамляе газета "Звязда", запазычанасць па настаўніцкаму заробку складае зараз 100 мільярдаў 500 мільёнаў рублёў (на 15 ліпеня гэта лічба складала каля 137 мільярдаў). За кошт атрыманага з дапамогай Міністэрства фінансаў крэдыту ў памеры 158 мільярдаў была выплачана частка доўгу, але пагасіць яго поўнасцю ці хаця б напалову не ўдалося. Сярод абласцей самай "нядобранадзейнай" на даны перыяд з'яўляецца Магілёўская, дзе сума запазычанасці складае 21,78 мільярда рублёў. Далей у гэтым сумным спісе ідзе Мінская вобласць -- 21,68 мільярда рублёў запазычанасці і Гомельская -- 20,9. Напрыканцы ліпеня Мінфін абяцаў выдзеліць чарговы крэдыт, але калі ён будзе атрыманы, дакладна невядома.

СТЫХІЯ

### ЛІВЕНЬ НАД СТАЛІЦАЙ

Раніцай 31 ліпеня рух па асноўных магістралях беларускай сталіцы з-за моцнага ліўня быў паралізаваны. Стыхія на некаторы час пагасіла нават Вечны агонь ля манумента на плошчы Перамогі. Вялікія масы вады ў некаторых месцах утварылі цэлыя азёры глыбінёй да 50 сантыметраў. Ніякіх экстранных мер камунальныя службы горада не прымалі, прычым гэта звязана не з непаваротлівасцю службаў. Як паведамілі карэспандэнту БЕЛТА ў трэсце "Гардармеханізацыя", сістэма гарадской каналізацыі па сваіх тэхнічных характарыстыках проста не здольная была прыняць такі аб'ём вады. На Мінск вылілася адна трэць месячнай нормы ападкаў. Гэта нарабіў цыклон, які прыляцеў на Беларусь з Чэхіі.

ПАКЛАПАЦІЛАСЯ ФАО

### ЦЭЛАЯ ТОНА КНІГ

Беларуская сельскагаспадарчая бібліятэка атрымала ў дар ад Арганізацыі ААН па сельскай гаспадарцы і прадуктах харчавання (ФАО) літаратуру, выдадзеную ФАО ў апошнія пяць гадоў. ФАО з'яўляецца не толькі ключавой арганізацыяй ААН і сусветным супольніцтвам аграрыяў, але і буйшэйшым інфармацыйным цэнтрам і выдавецтвам сельскагаспадарчай літаратуры. Гэта навуковая, вытворчая і даведачная літаратура ствараецца найбольш аўтарытэтнымі аўтарамі і праходзіць міжнародную экспертызу.

Паколькі Беларусь не з'яўляецца членам ФАО, аўтарытэтная міжнародная інфармацыя ФАО недаступная беларускім спецыялістам-аграрнікам. Беларуская сельскагаспадарчая бібліятэка, занепакоеная адсутнасцю транснацыянальнага доступу да навукова-тэхнічнай інфармацыі, звярнулася ў ФАО з просьбай прадаставіць Беларусі ў парадку выключэння літаратуру, выдадзеную ФАО. У штаб-кватэры ФАО ў Рыме да просьбы паставіліся з разуменнем. Была сфарміравана не адна бібліятэка матэрыялаў ФАО, а цэлых 50! І грузавы аўтамабіль з 60 скрынямі кніг -- цэлай тонай -- узяў курс на Мінск.

Гэтая літаратура прызначана да распаўсюджання ў сельскагаспадарчых вышэйшых навучальных установах, навукова-даследчых інстытутах, доследных станцыях, тэхнікумах бясплатна. Яна стане даступнай для ўсіх жадаючых пазнаёміцца з сусветнымі тэндэнцыямі аграявытворчасці, з міжнароднымі патрабаваннямі да сельскагаспадарчай прадукцыі, міжнароднай статыстыкай вытворчасці, спажывання і імпарту-экспарту сельскагаспадарчай прадукцыі. Сельскагаспадарчым бібліятэкам, дзе літаратура будзе знаходзіцца, не давядзецца яе каталагізаваць. Звесткі аб кнігах будуць уключаны ў электронны каталог Беларускай сельскагаспадарчай бібліятэкі, які даступны ўсім бібліятэкам Беларусі.

Гэта не першы выпадак дастаўкі літаратуры ФАО ў Бібліятэку. Не так даўно Асацыяцыя садзейнічання ААН перадала ў дар Бібліятэцы вялікую калекцыю літаратуры ФАО. Услед за гэтым Прадстаўніцтва ААН падарыла Бібліятэцы каштоўную калекцыю матэрыялаў ФАО.

Кантакты Беларускай сельскагаспадарчай бібліятэкі з ФАО зусім не выпадковыя. Яшчэ ў 1994 годзе Бібліятэка была прызнана ФАО ў якасці Нацыянальнага цэнтра Міжнароднай інфармацыйнай сістэмы ААН па сельскай гаспадарцы -- зноў жа ў парадку выключэння. Бібліятэка рыхтуе і перадае ў інфармацыйны цэнтр ФАО інфармацыю аб публікацыях беларускіх вучоных-аграрнікаў і звесткі аб навукова-даследчых работах, што вядуцца ў краіне. Толькі таму беларуская інфармацыя становіцца вядомай сусветнай навуковай супольнасці.

СВАЁ ПІВА




Цэх па прыгатаванню піва адкрыты ў калгасе "Гвардыя" Дзятлаўскага раёна. Гэта сучасная вытворчасць. Цяпер тут штодзённа выпускаецца тысяча літраў смачнага напою "Мальва", які тут жа рэалізуецца спажыўцу. У Дзятлаўскім раёне падобных вытворчасцей больш няма. І таму праблем са збытам прадукцыі не бывае.

НА ЗДЫМКУ: пакаштаваць смачнае піва прапануе півавар Аляксандр ГРУДА.

"ЗАЛАТЫ ГЛОБУС"

### АТРЫМАЛА "БЕЛШЫНА"

Міжнародным прызам "Залаты глобус" Фонду развіцця ўсходняй эканомікі ўзнагароджаны камбінат "Белшына". Сертыфікат на высокую ўзнагароду гаворыць, што бабруйская "Белшына" атрымала прыз "за выдатны ўклад у развіццё эканомікі сваёй краіны і яе інтэграцыю ў сусветную эканоміку, а таксама за канкурэнтаздольнасць і якасць прадукцыі".

Шыны прадпрыемства экспартуюцца сёння больш чым у 20 краін свету.

# ПАЛІТЫЗАВАНАЯ ГІСТОРЫЯ НЕ МОЖА БЫЦЬ САПРАЎДНАЙ НАВУКАЙ

**(Заканчэнне.
Пачатак на 1-й стар.).**

Яны ажыццяўляюць "выхады" на ўлады, адпаведныя структуры, з тым каб ужо праз іх зрабіць уздзеянне на астатніх.

-- **Вось вы кажаце пра адсутнасць дыктату зверху, але тое, што на пэўныя кіруючыя пасады прызначаюцца людзі адпаведнай палітычнай арыентацыі, ці не праяўленне менавіта ўціску? Бо зразумела, што яны будуць дыктаваць свае ўмовы, якім неабходна падпарадкоўвацца.**

-- Сапраўды, такую выснову рабіць можна, але будзем спадзявацца, што большыя маштабы гэта не прыме.

-- **Такім чынам, тэмы даследаванняў інстытута пакуль ніхто не "рэдагуе" і не "карэкціруе"?**

-- Пакуль не. Канешне, мы жадаем, каб так засталося надалей, тым больш, што, здаецца, агульныя палітычныя абставіны, у першую чаргу, узмацненне пазіцый дэмакратыі ў Расіі ў выніку пераканаўчай перамогі Барыса Ельцына на прэзідэнцкіх выбарах, павінны гэтаму спрыяць.

-- **А наогул, які настрой сёння пануе ў акадэмічным Інстытуце гісторыі. Ці ёсць тут каму працаваць?**

-- Працаваць ёсць каму, хоць за апошні час -- з пачатку 90-х гадоў -- мы вымушаны былі скараціць калектыў на трэць. Тым не менш асноўныя кадры захавалі, але на нас непазбежна кожнае кіраўніцтва жадае, каб гістарычныя падзеі, факты працавалі менавіта на яго карысць. Але палітызаваная гісторыя не можа заставацца навукай. Навукай яна будзе толькі тады, калі даследаванне праблем ажыццяўляецца ў такім рэжыме, нібыта палітычнай цікавасці да іх няма. А мы гэтага не назіраем.

-- **Прафесар Петрыкаў лічыць вашу пазіцыю памылковай.**

-- Але тым не менш такая пазіцыя адзіна правільная. Дарэчы, калі я згадваў пра гісторыкаў, якія ўжо шмат год не бывалі ў архівах, па-сапраўднаму не працуюць у навуцы, але хочуць паўплываць на яе, дык у першую чаргу меў на ўвазе яго. Цяжка ўвогуле зразумець пазіцыю Петрыкава, які проціпаставіў сябе калектыву, дзе працаваў доўгія гады і дзе мнóгія, як ён піша, прайшлі праз яго рукі. Сёння ў інстытуце яго могуць разумець літаральна адзінкі. Дастаткова сказаць, што з канца 80-х гадоў ужо двойчы праводзіліся выбары ў вучоны савет, але Петрыкаў так і не быў абраны, хаця прэтэндаваў на гэта. Калі ён выступае са сваімі поглядамі, супрацоўнікі проста адмахваюцца, як ад рэчы несур'ёзнай. Яго артыкулы ў друку разлічаны на недасведчаную аўдыторыю: людзі чытаюць і вераць -- усё-такі член-карэспандэнт напісаў.

Калі згадаць прэтэнзіі Петрыкава да Энцыклапедыі гісторыі Беларусі, трэба адзначыць, што ён стараецца ўсё, груба кажучы, "павесіць" на інстытут, хаця сам ведае, што інстытут энцыклапедыяй ніяк не кіруе. Дарэчы, тыя артыкулы, да якіх больш за ўсё прэтэнзій, напрыклад, пра БНР ці прв БНФ, напісаны нават не гісторыкамі. Справа тагачаснага кіраўніцтва энцыклапедыі, чаму яны зрабілі менавіта так. Прыкладна тое ж адбываецца і з многімі іншымі "спрэчнымі" момантамі. Мы зрабілі назіранне, што ў яго публікацыях, у прыватнасці ў газеце "Рэспубліка", дзе ён таксама абвінавачвае інстытут і прыводзіць вытрымкі з артыкулаў, сярод іх аўтараў няма супрацоўнікаў інстытута. Я ўжо не кажу пра тэндэнцыйнве і нядобрасумленнае цытаванне артыкулаў, калі апускаецца нярэдка тое, што нявыгадна. І асобная гаворка, калі яму не падабаюцца шмат якія гістарычныя дакументы.

Дарэчы, я зусім не лічу, што ў выдадзеных тамах энцыклапедыі, іншых выданнях па гістарычнай тэматыцы няма недахопаў. Несумненна, ёсць, і іх трэба папраўляць.

Калі гаворку весці бліжэй да згаданага інтэрв'ю з Петрыкавым у вашай газеце, то зазначу, што я абсалютна супраць таго, каб "выкінуць" Кіеўскую Русь з нашай гісторыі. Лічу недастаткова распрацаванай тэму ўзаемаадносін Полацкага і іншых княстваў на тэрыторыі Беларусі з Кіевам. Неабходна больш глыбока высвеціць ролю ў нашай гісторыі Старажытнарускай дзяржавы. Вельмі аднабока і па-старому ён разумее гістарычны працэс, калі сцвярджае, што паказ негатыўных момантаў ва ўзаемаадносінах Вялікага Княства Літоўскага і Маскоўскай дзяржавы вядзе да таго, што "сталі "ляпіць" вобраз ворагаў..." ці развіваць нейкую "нянавісць". Дык няхай усё застаецца па-ранейшаму? Строга прасеяным і дазіраваным. І вялікі пласт гісторыі будзе выключаны з нашага навуковага даследавання ў той час як расійскія гісторыкі і па гэтай праблеме працуюць плённа. Я супраць выкарыстання гістарычных падзей у палітычных мэтах, але адлюстроўваць трэба ўсё: і дабратворны ўплыў рускага народа на беларускі, і тыя складанасці, што былі ў сярэднявеччы паміж імі. Для народаў і гісторыкаў заходнееўрапейскіх і іншых краін гэтае пытанне даўно не існуе. А нас усё цягнуць назад.

Каб яшчэ больш дасаліць гісторыкам сярэднявечча, Петрыкаў прыпісвае ім тое, чаго ніколі не было, як быццам "імя ўласнае "Вялікае Княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае" замяняюць на "Беларуска-літоўскую дзяржаву" (такой афіцыйнай назвы не было)". Канешне не было. Шкада, што ў адрозненне ад радавых чытачоў ён так і не зразумеў простай ісціны: беларуска-літоўская дзяржава -- гэта не назва, а характарыстыка ВКЛ.

Шкада, што імкненне абсалютнай большасці гісторыкаў Беларусі да аб'ектыўнага і поўнага даследавання нашай мінуўшчыны расцэньваецца як "скажэнні" і "фальсіфікацыя", быццам мы закладваем "міну пад дзяржаўную палітыку Рэспублікі Беларусь". Якая беспардоннасць! Аказваецца, тыя, якія, у прыватнасці, даказалі, што дзяржаўнасць на Беларусі мае шматвяковую гісторыю (аб чым запісана ў Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь), "падкладваюць міну" пад нашу дзяржаўнасць, а той, хто адмаўляе гэта, умацоўвае яе. Вось гэта логіка!

Нельга не звярнуць увагу толькі на адзін "падыход", які быў і застаецца ў таго, хто дае інтэрв'ю, -- "адлюстраванне аб'ектыўнай рэальнасці ў яе гістарычным развіцці". Аб якой "аб'ектыўнай рэальнасці" ў гістарычнай навуцы можа ісці гаворка, калі "гістарычнае развіццё", г. зн. сучасная палітыка, павінна яе падпраўляць?

І яшчэ адзін перл, што датычыць, як ні дзіўна ў наш час, "ворагаў народа". Петрыкаў безапеляцыйна сцвярджае: "Як гісторык, я ведаю, што такія ворагі заўсёды былі, ёсць і будуць". Каменціраваць гэтае "адкрыццё" ў гістарычнай навуцы я ўстрымаюся, толькі зазначу, што побач дэкларатыўна гаворыцца "пра элементарныя добрасумленныя адносіны вучоных-гісторыкаў да пошукаў ісціны".

-- **Між іншым, інстытут -- калектыў аднадумцаў?**

-- Не, так сказаць нельга. Я як дырэктар -- беспартыйны. Але ў нас працуюць прадстаўнікі розных партый: ад камуністаў да членаў Грамады. Спектр шырокі. Я ўпэўнены: падобная разнастайнасць поглядаў толькі на карысць высвятленню навуковай ісціны, бо дазваляе пазбегнуць аднабаковасці.

-- **Цікава, якімі тэмамі сёння больш захоплены маладыя навукоўцы?**

-- Тымі, што пакуль зусім ці часткова не мінімальнай мяжы, каб забяспечыць даследаванне ўсіх перыядаў. Да таго ж трэцяя частка нашых навукоўцаў -- археолагі. Гэта зусім няшмат. У суседніх з намі краінах працуюць археалагічныя інстытуты. Значную плынь складаюць даследаванні па сярэднявечнай Беларусі, а таксама больш позніх перыядах, у тым ліку савецкім. Назва інстытута прадугледжвае і даследаванне сусветнай гісторыі, але такое пытанне перад намі ўвогуле пакуль не стаіць, бо, як уся акадэмія, мы жывём і працуем таксама на мінімальным узроўні ў сэнсе фінансавага забеспячэння.

Аднак людзі, што ёсць, працуюць у асноўным актыўна і забяспечваюць неабходны ўзровень даследаванняў па ўсіх перыядах.

-- **Неаднойчы даводзілася чуць пра цяжкасці з маладымі кадрамі, наборам аспірантаў...**

-- Становішча сапраўды няпростае, але ў нас толькі з матэрыяльнага боку. Інстытут здолеў захаваць сваю аспірантуру прыкладна на ранейшым узроўні. Мінімальнае, але папаўненне моладдзю ідзе.

-- **Ці захавалася магчымасць выбіраць сярод пачынаючых навукоўцаў? Можа, прыходзіцца браць у аспірантуру таго, хто ідзе сам?**

-- Ведаеце, нават у перыяд агульнага спаду цікавасці моладзі да навукі ў нашай галіне такога не назіралася. Я гэта звязваю з тым, што ў апошнія гады вельмі моцна ўзрасла ўвага да гістарычнай навукі. Раней нашы працы выходзілі тыражамі пераважна ў тысячу экземпляраў. Фундаментальная "Гісторыя Беларускай ССР" у пяці тамах мела тыраж 5 тысяч экземпляраў і распаўсюджвалася вельмі доўга. Аднатомнік, зроблены на яе аснове на рускай мове тыражом 25 тысяч экземпляраў, стаяў на паліцах кнігарань шмат гадоў і да канца так і не быў раскуплены. Цяпер тыражы многіх гістарычных выданняў істотна выраслі. Напрыклад, "Нарысы гісторыі Беларусі" ў 2-х частках выйшлі колькасцю 40 тысяч экземпляраў. Ужо праз некалькі месяцаў пасля выхаду 1-ю частку набыць было немагчыма. Калі гісторыя стала больш поўнай і аб'ектыўнай, яна зрабілася і больш цікавай для грамадства.

-- **Магчыма, павышаная цікавасць да гісторыі звязана з агульнай значнай палітызаванасцю грамадства, асабліва адукаванай моладзі?**

-- Думаю, што так. Аднак палітызаванае грамадства мае права мець непалітызаваную гісторыю.

-- **Але і сёння нярэдка навука гісторыя ангажыруецца палітыкай і ўспрымаецца не толькі як аргумент у палітычных спрэчках, але нават як зброя, якой зацята размахваюць ва ўсе бакі.**

-- Згодзен. Цікавасць палітыкаў да гістарычных праблем не выпадковая. Адпаведнай іх інтэрпрэтацыяй яны імкнуцца падмацаваць свае пазіцыі. Але большасць людзей хочуць ведаць аб'ектыўную гісторыю. Таму мы павінны працаваць так, каб было як мага менш палітызацыі, а больш навуковасці. Гэта задача універсальная, хаця ажыццявіць яе досыць цяжка: многія праблемы мінулага выходзяць на сённяшні дзень. Нават тыя ж археалагічныя.

-- **Такім чынам, гісторыя вельмі злабадзённая рэч?**

-- Несумненна, але менавіта як навука, яна ад гэтага вельмі многа страчвае. Бо ў высветлены. Шмат хто скіроўваецца ў сярэднявечча: там цаліна вялікая.

-- **Наколькі актуальны перыяд другой сусветнай вайны?**

-- Ён адзін з самых актуальных. Хаця тут цяжкасцей і праблем хапае. Мы нават узялі ў штат некалькі новых супрацоўнікаў па гэтай праблематыцы. Але сіл усё роўна мала. Увогуле пазіцыя кіраўніцтва інстытута наступная: трэба і надалей весці пошукі ў напрамку шырокага вывучэння гераічнага подзвігу беларускага народа ў Вялікай Айчыннай вайне, але разам з тым распрацоўваць тое, аб чым раней наогул амаль не гаварылася. Нашы супрацоўнікі ўжо сказалі сваё слова аб трагізме вайны, значна большым, чым мы ўяўлялі, у тым ліку і ў самы першы яе перыяд.

-- **Ці магчыма цалкам аб'ектыўна, па-навуковаму бясстрасна даследаваць падзеі мінулай вайны, калі яшчэ не сціх боль, кровачыць памяць у сэрцах жывых сведкаў трагедыі? Можа, для навукі лепш усё адкласці "на пасля"?**

-- З аднаго боку, даследаванне можа быць больш аб'ектыўным, калі перыяд "адстаяўся". Але ж і чакаць гэтага нельга. Вайна, канешне, праблема гарачая. Навука павінна максімальна выкарыстаць усё тое, што могуць даць удзельнікі вайны. Іх жывыя сведчанні пра падзеі і з'явы неабходны. На жаль, цяпер мы не маем магчымасці займацца ўспамінамі: вельмі абмежаванае кола супрацоўнікаў, але раней інстытут гэта рабіў.

-- **Міхаіл Паўлавіч, гісторыкам Петрыкаў прад'яўляе даволі сур'ёзныя абвінавачванні, у прыватнасці, у распальванні нянавісці да Расіі.**

-- Сапраўднае глупства. Мы з вялікай павагай ставімся да рускага і іншых народаў. Гэта несумненна. Але тое, што было раней у стасунках паміж жыхарамі беларускіх земляў і суседзямі, трэба вывучаць не так, як раней, -- замоўчваючы складанасці.

Што датычыцца ўплыву БНФ на гісторыкаў у гэтым пытанні, дык цалкам штучная выснова. У пачатку 90-х гадоў мне давялося весці дыскусію з прадстаўнікамі БНФ па гістарычных праблемах. Я наогул не падзяляю крайніх пазіцый як злева, так і справа. Палітыка і навука -- розныя рэчы. Таму сцвярджэнне, што інстытут зрабіў "небяспечны крэн у бок гістарычнага апраўдання палітыкі БНФ..." -- проста лухта, імкненне дапячы сваёй установе як мага болей.

Калі ж зноў гаварыць пра Расію, у нас былі і захоўваюцца добрыя адносіны з расійскімі гісторыкамі. Нядаўна я прыняў удзел у міжнароднай навуковай канферэнцыі ў Расійскай акадэміі навук. Мы заключылі дамову аб супрацоўніцтве з Інстытутам расійскай гісторыі і абавязкова будзем яе выконваць. Сёлета буду выступаць перад расійскімі калегамі з дакладам аб дасягненнях беларускіх гісторыкаў, планую даць характарыстыкі гістарычных перыядаў, як яны нам цяпер уяўляюцца. З другога боку, дырэктар Інстытута расійскай гісторыі член-карэспандэнт РАН Андрэй Сахараў выступіць у Мінску. Такім чынам, мы маем плённыя сувязі, як, дарэчы, і з іншымі суседзямі. Нам, гісторыкам Беларусі, трэба працаваць, а не замінаць адзін аднаму непатрэбнымі спрэчкамі. Навука не чакае, пакуль нехта высвятляе адносіны.

**Гутарыла
Галіна УЛІЦЁНАК.**

*ПА ЧУЖЫХ СТАРОНКАХ*

## Міхаіл ЧЫГІР: ДВА ГАДЫ МЫ ЖЫЛІ СЁННЯШНІМ ДНЁМ

**22 ліпеня споўнілася два гады з дня падпісання Прэзідэнтам указа аб назначэнні М. Чыгіра прэм'ер-міністрам. Міхаіл ЧЫГІР каменціруе вынікі двухгадовай работы ўзначальваемага ім урада.**

-- *Міхаіл Мікалаевіч, што ўдалося зрабіць ураду за два гады і што аказалася вам не пад сілу?*

-- Галоўнае, што патрабавалася ад урада пры яго фарміраванні і Вярхоўным Саветам, і Прэзідэнтам, -- стабілізацыя нацыянальнай валюты і зніжэнне тэмпаў інфляцыі да разумных граніц. Без гэтага стабілізацыя эканомікі немагчымая. Калі інфляцыя на працягу месяца вымяраецца двухзначнай лічбай, а курс нацыянальнай валюты пастаянна мяняецца на 10, 20 і больш працэнтаў, натуральна, што дабіцца станоўчых вынікаў немагчыма. Гэта напрамак, над якім па першым часе працаваў урад. Адбылося павышэнне рознічных цэн, і ў выніку фінансавая сістэма стала больш ці менш устойлівай.

І сёння наш масавы таваравытворца можа выжываць пры рэалізацыі сваёй прадукцыі як на замежных, так і на ўнутраных рынках. Адышлі ад каласальнай бюджэтнай датацыі перш за ўсё аграрнаму сектару, і далей паўстала задача спыніць падзенне выпуску валавой прадукцыі. Да двухгоддзя можна сказаць, што па гэтаму паказчыку таксама ўдалося дабіцца стабілізацыі. Цяпер трэба працаваць над тым, каб перайсці да новага этапу развіцця эканомікі -- этапу росту і ўздыму.

-- *У гэтым сутнасць праграмы, якая распрацоўваецца цяпер у Мінэканоміцы?*

-- Праграма накіравана на ўздым эканомікі, распрацоўваецца яна з улікам Вярхоўнага Савета, урада, Адміністрацыі Прэзідэнта незалежнымі экспертамі. Іх прапановы ўжо сабраны, разглядаюцца, і хутка праграма будзе прынята. Яе галоўныя пункты -- стварэнне і захаванне высокаэфектыўных рабочых месцаў, павышэнне рэальных даходаў насельніцтва, скарачэнне дэфіцыту гандлёвага і плацежнага балансаў. Праграма пабудавана на рыначных падыходах.

-- *Ці ёсць палітычная воля для рэалізацыі рыначнай праграмы?*

-- Ёсць. Яна падтрымліваецца Прэзідэнтам, але трэба сказаць, што А. Лукашэнка часта да адпрацоўкі рыначных механізмаў настойвае ўсё-такі на адміністрацыйным кіраванні эканомікай. Урад іншы раз прапаноўвае больш актыўна пераходзіць да рыначных рычагоў, а Прэзідэнт гаворыць, каб мы спачатку канкрэтна адпрацавалі рыначныя механізмы, а потым ужо пераходзілі да іх выкарыстання ў кіраванні нашай эканомікай.

Урад у працэсе распрацоўкі праграмы актыўна абменьваўся меркаваннямі, перш за ўсё, з Вярхоўным Саветам і Нацыянальным банкам, і тыя пазіцыі, па якіх узнікнуць рознагалоссі ў розных груп распрацоўшчыкаў, будуць абмяркоўвацца з удзелам Прэзідэнта. Асноўная мэта праграмы -- узняцце эфектыўнасці эканомікі, пра што сёння нельга гаварыць без прыцягнення замежных інвестыцый.

-- *На які тэрмін свайго прэм'ерства строіце вы асабістыя планы?*

-- Два гады мы жылі сённяшнім днём, была распрацавана і прынята праграма па вываду рэспублікі з крызісу. Над перспектывай на пяць і больш гадоў мы яшчэ не працавалі, бо не былі стабілізаваны асноўныя паказчыкі. Цяпер, калі ўдалося спыніць падзенне вытворчасці, можна разглядаць план на пяць гадоў і на больш аддаленую перспектыву, і гэтым мы зоймемся ў пачатку наступнага года.

*("Белорусский рынок").*

# ЦІ ДАРУЕ БОГ?



Жах, слёзы і неразуменне былі ў вачах вернікаў, якія тыдзень таму прыйшлі ў галоўны праваслаўны храм Мінска -- Свята-Духаў кафедральны сабор. На яго белыя сцены па ўсім перыметры чорнай фарбай былі нанесены сатанінская сімволіка, кашчунныя надпісы, пагрозы, чорнай фарбай былі запэцканы мазаічныя іконы Прасвятой Тройцы, святых Іаана Прадцечы, Кірылы і Мяфодзія.

Чорная фарба на белых сценах хрысціянскага храма крычала пра тое, наколькі страшна стала жыць, пра тое, што ўсё больш становіцца людзей, у душы якіх не засталося нічога святога, а самае галоўнае, пра тое, што ў наш сатанінскі час магчыма ўсё і ад чалавечага вандалізму не застрахавана нават святыня. Мінскі кафедральны сабор -- помнік архітэктуры XVII стагоддзя, які ахоўваецца дзяржавай, ён размешчаны на ўзвышэнні ў самым цэнтры беларускай сталіцы. Мяркуючы па зробленаму, нягоднікі гаспадарылі вакол храма столькі, колькі хацелі. Няўжо ні вартаўнік, ні міліцыя, што месціцца непадалёку, -- ніхто не звярнуў увагу на тое, што адбываецца. Крамольныя надпісы на сценах заставаліся некалькі дзён, каб людзі паглядзелі на ганьбу нашага часу, нашага жыцця. Потым вакол кафедральнага сабора прайшоў хрэсны ход: вернікі прасілі даравання. Не для сябе... А ці дарує такое Бог!

Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт асудзіў акт глумлення з праваслаўнага храма і зрабіў заяву, у якой, у прыватнасці, гаворыцца: "Мы заклікаем дзяржаву ў асобе яе вышэйшых кіраўнікоў з усёй сур'ёзнасцю аднесціся да таго, што адбылося, і прыняць усе меры па выяўленню і належнаму пакаранню выканаўцаў і арганізатараў гэтай зламыснай акцыі".

"Праваслаўная Царква, якая стаяла ў 992 годзе ля самых вытокаў дзяржаўнасці Белай Русі, бачыць у жахлівым вандалізме не толькі развіццё злавеснай тэндэнцыі, накіраванай супраць духоўнасці хрысціян і гісторыі Айчыны, але і супраць самой ідэі дзяржаўнасці Беларусі, пераемнай і асвячонай тысячагадовым подзвігам праваслаўнай веры і набожнасці нашых продкаў", -- падкрэслена ў заяве.

Фота В. СТАВЕРА.



ЧАС НАСТАЛ. ВОЛЧЬЕ ЛОГОВО ВОССТАЛО.. ИЗ ПЕПЛА, КОТОРОЕ НЕСЕТ СМЕРТЬ ХРИСТИАНСКИМ СОБАКАМ






ПАЛІТЫЧНЫ САТАНІЗМ

# "НЕАБХОДНА АБАРАНЯЦЬ СЦЯГ И ПАВАЖАЦЬ ЯГО"

**ЧТО ПРАЗДНУЕМ, "СПАДАРЫ"?**

**Вильгельм Кубе и Станислав Шушкевич -- роковое совпадение в датах?**



Напярэдадні Дня незалежнасці ў беларускай прэсе можна было прачытаць рознае, але такога непрыстойнага паскудства, як у "Знамени юности", бадай што, не знойдзеш ні ў якой іншай газеце. Гаворачы па-руску, скабрезная статейка, сутнасць якой ва ўступным абзацы: "27 июля 1991 года белорусский Верховный Совет, тогда еще действовавший под предводительством "памяркоўнага" экс-физика Станислава Шушкевича, принял Декларацию независимости Республики Беларусь. Чуть позже -- буквально на следующий день -- над столичным Домом правительства, где заседали народные избранники, появился новый флаг. Было ли депутатам известно, что полотнище бело-красно-белой расцветки уже однажды взвивалось над Минском? Именно в этот день, 27 июля, но 1942 года один из самых кровавых палачей на Земле -- гитлеровский гауляйтер оккупированной Белоруссии Вильгельм Кубе благословил местных националистов на террор против собственного народа. А заодно с подачи минского бургомистра предателя Ермаченко позаботился об обеспечении их соответствующей символикой. Той самой, которую ровно 49 лет спустя депутаты "суверенного" парламента решили вывесить над своим зданием в центре столицы. Что это? Роковое совпадение в датах? А быть может, подсознательная память? Проявление какого-то таинственного генетического кода, которым мать-природа по ей одной известным законам метит подленькую породу предателей?

Да, в это не хочется верить... Но среди пыльных стеллажей национального архива Беларуси хранится документ, увидев который, такого "суверэнітэту" уже не захочется никогда. Фонд 908, опись 1, дело 2, лист 148. Аккуратно подшитая страница нашей истории, датированная тоже 27 июля. Страница предательства..."

Пратэст і абурэнне грамадскасці, асабліва ў колах інтэлігенцыі, навукоўцаў выклікаў гэты выпад палітычнага сатанізму. Вядомы гісторык Віталь Скалабан прынёс у рэдакцыю "Голасу Радзімы" адказ паклёпнікам, які мы і друкуем ніжэй.

* * *

**Публікацыя "Что празднуем, "спадары"?" у газеце "Знамя юности" ад 23 ліпеня 1996 года -- узор перакручвання фактаў з даўняй і нядаўняй гісторыі, узор зняважлівых адносін да беларускай гісторыі. Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі была прынята не ў 1991, як сцвярджаецца ў газеце, а ў 1990 годзе: Вярхоўны Савет тады ўзначальваў не Станіслаў Шушкевіч, а Мікалай Дземянцей; бел-чырвона-белы сцяг з'явіўся над Домам урада не "буквально на следующий день", а толькі пасля 19 верасня 1991 года, калі ён быў аб'яўлены дзяржаўным.**

**Чытач "Знамени юности", прачытаўшы пра "пыльные стеллажи Национального архива Беларуси" (тут хочацца прывесці словы адной знаёмай архівісткі: у архіўным сховішчы пылу не больш, чым у кватэры добрай гаспадыні), прачытаўшы пра фонд, вопіс, справу і аркуш, дзе знаходзіцца дакумент, можа сапраўды падумаць, што публікацыя заснавана на гістарычных фактах і з'яўляецца праўдзівай, а бел-чырвона-белы сцяг -- "соответствующая символика", пра якую для беларусаў паклапаціўся Вільгельм Кубэ.**

**...Звернемся да фактаў. Адно з першых выступленняў супраць беларускага бел-чырвона-белага сцяга адбылося 7 (20 па новаму стылю) снежня 1917 года ў Мінску на Усебеларускім з'ездзе. Ад імя бальшавікоў выступіў нарком унутраных спраў Заходняй вобласці і фронту Рэзаускі. Калі ён назваў беларускі нацыянальны сцяг "национальной тряпкой" і заклікаў замяніць яго "красным знаменем интернационала", то ў зале паднялося абурэнне, на сцэну выйшлі два моцныя матросы, узялі наркома пад рукі і вывелі. Генерал Канстанцін Аляксееўскі падышоў да сцяга і пацалаваў яго. Выступіў селянін Мінскай губерні Плішэвіч і сказаў: "Неабходна абараняць сцяг і паважаць яго". Значэнне гістарычнай сімволікі зразумеў селянін Плішэвіч яшчэ ў снежні 1917 года. Яго ўзроўню не дасягае дзяржаўная газета "Знамя юности"?**

**Віталь СКАЛАБАН.**

# ВІНШАВАННЕ КІРАЎНІКУ СЛЫННАГА АНСАМБЛЯ

**У Валянціны Гаявой, кіраўніка Дзяржаўнага харэаграфічнага ансамбля "Харошкі", юбілей. З гэтай нагоды сваё віншаванне прыслаў Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка. У прывітанні гаворыцца:**

"Шаноўная Валянціна Іванаўна!

Прыміце мае шчырыя і сардэчныя віншаванні з нагоды Вашага юбілею.

Аматары харэаграфічнага мастацтва не толькі нашай краіны, але і далёка за яе межамі добра ведаюць Вас як цудоўнага, высокапрафесіянальнага майстра харэаграфіі, кіраўніка славутага калектыву ансамбля "Харошкі".

Ваша творчая біяграфія -- гэта цэлая эпоха ў нацыянальным мастацтве.

Створаная Вамі харэаграфічная школа стала нацыянальнай культурнай спадчынай Беларусі, здабыла ўсеагульнае прызнанне і высокі аўтарытэт.

Вы па праву карыстаецеся вялікай павагай, прызнаннем і любоўю беларускага народа. Ансамбль "Харошкі", які ВЫ ўзначальваеце, многа гадоў з'яўляецца калектывам яркай творчай індывідуальнасці, высокай сцэнічнай культуры, візітнай карткай мастацтва нашай рэспублікі і з гонарам прадстаўляе Беларусь ва ўсім свеце.

Жадаю Вам, шаноўная Валянціна Іванаўна, моцнага здароўя, вялікага шчасця, добрага настрою і новых творчых поспехаў".

# ХРЫСЦІЯНСТВА Ў ГІСТАРЫЧНЫМ ЛЁСЕ БЕЛАРУСАЎ

Па сутнасці, ад В.Цяпінскага пачынаецца той славуты беларускі "плач" па занядбанай роднай мове і дзяржаве, які разам з тым быў духоўным пратэстам і палітычным выклікам, асабліва ў зваротах да Маці-Царквы ("Фрынас" М.Сматрыцкага), да свайго народу і свету (творы К.Каліноўскага, Ф.Багушэвіча, Янкі Купалы і ўсёй "нашаніўскай" літаратуры).

Але ў гісторыі беларускай культуры, веры і беларускай самасвядомасці спадчына В.Цяпінскага засталася своеасаблівай рэпрызай да набыткаў Ф.Скарыны. Працяглай у часе драмай з трагічным фіналам была ў нас гісторыя царкоўнай уніі, пачатай Брэсцкім саборам 1596 года.

Палеміка вакол Брэсцкай уніі і яе наступстваў працягваецца каля чатырох стагоддзяў. На жаль, палеміка не заўсёды навуковая, часцей дагматычная, з палітычным падтэкстам. У шматслоўных спрэчках найбольш клапоцяцца пра лёс хрысціянства, праваслаўя і каталіцызму, забываюць гераіню і пакутніцу гэтай драмы — Беларусь, што мела за сабою тысячагадовую дзяржаўную і культурную традыцыю, якую палічылі за лепшае свядома "забыць" альбо, што зусім ужо "па-прасцяцку", праігнараваць Захад і Усход, Польшча і Расія, Еўропа і Азія, адным словам, паводле трагікамедыі Янкі Купалы "Тутэйшыя" -- Усходні Вучоны і Заходні Вучоны. У спрэчках рэдка прымаюцца пад увагу тыя сацыяльна-палітычныя і рэлігійна-культурныя ўмовы, у якіх наспела ідэя уніі і спроба яе рэалізацыі ў беларуска-ўкраінскім рэгёнах.

Пасля падзення Візантыі (1453) праваслаўе згубіла традыцыйную іерархічнась, а ў Расіі яно трансфармавалася ў "рускую веру". У Маскоўшчыне пад націскам цэзарызму царква страціла сваю духоўную свабоду. У другой палове XYII стагоддзя канфлікт паміж патрыярхам Ніканам і царом Аляксеем Міхайлавічам закончыўся перамогай "царства" над святарствам. Урэшце, у 1720 годзе Пётр І наогул ліквідаваў пасаду патрыярха, замяніў яе Свяшчэнным Сінодам на чале з оберпракурорам -- паслухмяным інструментам імперскай палітыкі. У канцы XYI--XYIII стагоддзях каталіцызму Рэчы Паспалітай таксама не ўдалося пазбегнуць польскай дзяржаўнай ангажаванасці, бо ў Польшчы ўзмацніўся імперскі сіндром -- тэндэнцыя да пераўтварэння саюзніка па канфэдэрацыі Вялікага Княства Літоўскага ў сваю правінцыю.

Так адбываўся раскол хрысціянства ў Беларусі на "рускую" і "польскую" веру. Беларускі народ аказаўся "заціснутым" паміж гэтымі палітызаванымі канфесіямі. Наступіла трохсотгадовая паланізацыя і русіфікацыя беларусаў. Гэтае імкненне "задушыць у абдымках" цэлы народ з шматвяковай культурай і дзяржаўнай традыцыяй моцна запаволіла станаўленне арганізаванай у сучасную дзяржаву беларускай нацыі, нацыянальную самаідэнтыфікацыю беларусаў, рыхтавала для іх незайздросную ролю этнаграфічнага матэрыялу для суседніх дзяржаваў.

Каб пазбегнуць гэтай нацыянальнай анігіляцыі, духоўныя і палітычныя лідэры Вялікага Княства Літоўскага імкнуліся да рэлігійнай кансалідацыі. Тут знайшла спрыяльную глебу ідэя ўсяленскай уніі. У XY стагоддзі беларуская Праваслаўная Царква фармальна прыняла Фларэнційскую унію: на саборы ў 1438--1439 гадах мітрапаліт Сідар падпісаў яе ўмовы ад імя беларускай, украінскай і маскоўскай царквы. Аднак праз стагоддзе уніяцкі рух быў спынены пад націскам Расіі і Польшчы.

Брэсцкую царкоўную унію 1596 года прыняла большасць беларускіх праваслаўных іерархаў і свецкіх палітыкаў (Мікалай Крыстафор Радзівіл, Леў Сапега). На першым этапе яна праводзілася ў жыццё зверху, "рэвалюцыйным", на практыцы нярэдка гвалтоўным шляхам. Бясспрэчна і тое, што прыхільнікі паланізацыі Беларусі ўбачылі ў гэтым яднанні канфесіяў мост, які вядзе да суцэльнай "лацінізацыі" краю.

І ўсё ж унія — не толькі як ідэя, па сваёй сутнасці агульнахрысціянская, але і як факт духоўна-нацыянальнага быцця беларускага народа -- была важным этапам на шляху нацыянальнай самаідэнтыфікацыі беларусаў. Уніяцкая царква, яе айцызаснавальнікі звярнуліся да народа на яго роднай мове. Большасць палемічных твораў П.Скаргі, І.Пацея і іншых іерархаў у абарону уніі напісаны па-беларуску. Уніяцкая літаратура -- гэта апошні ўзлёт старабеларускай мовы ў канцы XYI--XYII стагоддзяў. Зусім верагодна, адзначаў Адам Станкевіч, што без уніяцкага бар'еру беларуская нацыя ўтапілася б у моры маскоўскага імперыялізму, больш грознага і больш татальнага, чым польскі нацыяналізм. "Словам, унія, як бачым, гэта такое на нашых землях духоўнае хрысціянства, якое найбліжэй сваёй натурай да натуры беларускай, якая сапраўды з'яўляецца апорай нацыянальнай культурнасці гэтага народу" ("Хрысціянства і беларускі народ: спроба сінтэзы". Вільня, 1940. С. 104).

За два стагоддзі свайго жыцця унія стала "трэцяй сілай" паміж польскім каталіцызмам і расійскім праваслаўем, зраслася з беларускім народам, набыла воблік сялянскай, "простай" рэлігіі. Вось чаму на яе "ціснулі" з двух бакоў -- з расійскага і польскага. Калі пасля падзелу Рэчы Паспалітай паміж гэтымі бакамі абвастрылася барацьба не толькі за Беларусь, але і за беларускую душу, унія ўсё ж выпраменьвала хрысціянскае святло для беларусаў, падтрымлівала іх спадзяванне на адраджэнне.

Актам інтэрвенцыі расійскага псеўдамесіянскага імперыялізму на беларускую нацыю і яе культуру быў інспіраваны царызмам Полацкі сабор 1839 года, які гвалтоўна ліквідаваў уніяцтва, далучыўшы яго вернікаў да той формы казённай расійскай царквы, якая склалася ў XYIII -- пачатку XIX стагоддзяў. Факт афіцыйнага непрызнання этнічнай і нацыянальна-культурнай самастойнасці беларусаў зафіксаваны у "Деяниях" сабору, паводле якіх беларусы "всегда составляли нераздельную часть русского народа". Таму прызнана за неабходнае быць "отныне, купно со вверенными нам паствами (...) в послушании Святейшего Правительствующего Всероссийского Синода". У адказ Сінод асобнай граматай дазволіў Беларускай царкве "пребывать отныне, купно со вверенными вам паствами, в единомыслии (...) и в послушании Святейшему Всероссийскому Синоду".

Праведзеная "зверху" інкарпарацыя Уніяцкай Царквы ў складзе нацыяналізаванай і злучанай з дзяржаўна-бюракратычным апаратам расійскай Праваслаўнай Царкве пагражала падрывам нацыянальнай самаідэнтыфікацыі беларусаў, іх культурнай самабытнасці. Гэтая палітыка паступова разбурала духоўна-культурныя архетыпы народа. Неабходна мець на ўвазе той факт, што ўся сістэма народнай адукацыі ў Беларусі XIX — пачатку XX стагоддзяў была расійскай, падпарадкаванай палітычнаму і рэлігійнаму кантролю свецкай і царкоўнай улады.

Ад поўнай русіфікацыі беларусаў выратавала славутая беларуская "адсталасць": абсалютная бальшыня несельніцтва тут належала да сялянскага саслоўя, слаба інтэграванага ў расійскую сацыяльна-палітычную і адукацыйную сістэму. Станоўчую ролю адыграў і той факт, які раней, у перыяд дзяржаўнай самастойнасці Беларусі, быў яе слабым бокам: маю на ўвазе канфесійную неаднароднасць, процістаянне праваслаўя і каталіцызму. У складзе Расійскай імперыі каталіцызм стаў царквою, якая моцна адчула дыскрымінацыю. У выніку Каталіцкі Касцёл аказаўся ў апазіцыі да царызму. Больш таго, ён ідэйна рыхтаваў нацыянальна-вызвольныя паўстанні 1830--1860-х гадоў. Гэты рух ініцыіраваў першае беларускае нацыянальна-культурнае адраджэнне ў XIX стагоддзі.

Католікамі (а іх продкі, верагодна, уніятамі) былі пачынальнікі новай беларускай літаратуры (Ян Чачот, Ян Баршчэўскі, Паўлюк Багрым, Кастусь Каліноўскі) і яе класікі (Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, Францішак Багушэвіч, Элаіза Пашкевіч, Янка Купала), дзеячы нацыянальнага руху браты Іван і Антон Луцкевічы, паэт Алесь Гарун, Вацлаў Ластоўскі ды іншыя, менш вядомыя беларускія адраджэнцы. Верагодна, гэтая слаўная кагорта герояў беларускага адраджэння дала падставу А.Станкевічу зрабіць выснову, што лацінскае каталіцтва "...адыграла цалкам пазітыўную ролю ва ўтварэнні і падтрымліванні беларускай нацыянальнасці, асабліва ў часе панавання над Беларусяй расейскіх цароў". Ілюстрацыя да гэтай думкі Станкевіча — вядомая жыццёвая драма Паўлюка Багрыма — таленавітага паэта, выхаванага ксяндзом Войцэхам Магнушэўскім у Крашынскай парафіяльнай школе ў 20-я гады XIX стагоддзя. Паводле успамінаў, Магнушэўскі "...хацеў памагчы, колькі здолеў, простым людзям. Даходаў ён не меў ніякіх, дзеля гэтага дарма красціў, вянчаў, а бяднейшым і грашмі памагаў. Быўшы адзінокім, зжыўся са сваімі людзьмі, звыкся з імі, пераняў іх мову, **спрасцеў** (падкрэслена мною. — **У.К.**), як аб ім казалі гарадскія і дворныя паны ды дзіваваліся, што ён гаварыў "мужыцкімі" прыказкамі і пагаворкамі. Іншыя нават думалі, што ён не ў поўным розуме. Гэта так ім здавалася. Магнушэўскі быў чалавек разумны: зблізіўшыся з народам, ён хацеў падняць народ, шырыць асвету сярод яго" (Паўлюк Багрым. Мн., 1994. С. 38).

А як жа праваслаўе? Няўжо ягоная роля ў станаўленні нацыянальнай самасвядомасці беларусаў XIX -- пачатку XX стагоддзяў была толькі дэструктыўнай?

Аналізуючы гэтую праблему, трэба адрозніваць два "паверхі" Хрысціянскай Царквы: першы -- "горны", нябесны, вечны і ўсечалавечны; другі паверх зямны, гістарычны, па неабходнасці аб'ектызаваны ў грэшнай экзістэнцыі нацыянальнага і сацыяльна-палітычнага быцця народаў. Нябесная Царква заўсёды дабрадатная ў творчай дзейнасці людзей, у тым ліку і нацыянальна-культурнай. Значэнне ж зямной, гістарычнай царквы не можа быць ацэнена толькі паводле двузначнай логікі. Будучы інтэграванай у язычніцкую, паводле свайго паходжання, сацыяльна-палітычную сістэму вядучых дзяржаваў, яна не свабодная ад спакусы імперскага псеўдамесіянства. Але святло Царквы Нябеснай заўсёды прасвечвае праз сацыяльна аб'ектывізаваную "абалонку" царквы зямной, палітызаванай. У выніку і гэтая апошняя, калі яна не страціла здольнасці да духоўнага росту і абнаўлення, у канчатковым выніку дабрадатная для нацыянальнага адраджэння народаў.

Духоўная роля Праваслаўнай Царквы ў гістарычным лёсе беларусаў яскрава выявілася ў XX стагоддзі. З асяроддзя праваслаўнага сялянства і былой фальварковай шляхты выйшлі класікі нацыянальнай літаратуры Якуб Колас, Максім Багдановіч, Максім Гарэцкі, а пазней -- цэлая кагорта пісьменнікаў, мастакоў, артыстаў, грамадскіх і палітычных дзеячаў 1920--1930-х гадоў. Праваслаўная Царква заўсёды была моцная сваёй хрысціянскай аўтэнтычнасцю і арыентаванасцю на духоўнаэтычнае самаўдасканаленне чалавека. Яна прабуджае ў духоўна багатых асобах глыбокае сумленне і пачуццё адказнасці за свой народ. Гэтае высокае прызнанне царквы гераічна выявілася ў часы вялікіх ганенняў -- спачатку на саму Царкву, а разам з ёю -- на духоўную і нацыянальную эліту беларускага народа ў канцы 20--30 гадоў нашага стагоддзя.

Ёсць падставы думаць, што ў блізкай будучыні павялічыцца роля Уніяцкай Царквы ў гістарычным лёсе Беларусі. Ужо сёння адбываецца яе другое адраджэнне. Унія максімальна набліжаецца да менталітэту і культурных традыцыяў нашага народу. Як ужо адзначалася, Брэсцкая унія ёсць рэалізаваны "фрагмент" ідэі уніі сусветнай, неабходнасць якой пазней абгрунтаваў У.Салаўёў: "Сусветная Царква, -- пісаў ён, -- будучы праз пасрэдніцтва святарскага чыну, аб'яднанага ў асобе Вярхоўнага Першасвятара, захавальніцай рэлігіі агульнай бацькаўшчыны, вялікай і вечнай мінуўшчыны людскага роду, не выключае, аднак, наяўнага мноства нацыяў і дзяржаваў (...) Нацыянальная разнастайнасць павінна захавацца да канца вякоў; народы павінны заставацца на самай справе адасобленымі органамі сусветнага арганізму. Але і сам гэты арганізм павінен існаваць рэальна".

Шлях да гарманічнага адзінства хрысціянскага свету Ул.Салаўёў убачыў дакладна. Зразумела, адзінства немагчыма забяспечыць фармальным дагаворам. Толькі на шляху паэтапнага зблíжэння цэркваў і прызнання роўнакаштоўнасці іх частак, у тым ліку "вялікіх" і "малых" нацыяў, прызнання уніяцкага руху як дабрадатнага для хрысціянскага адзінства магчыма Сусветная Унія. Першымі крокамі на гэтым шляху ва Усходняй Еўропе будзе, верагодна, вызваленне праваслаўнай іерархіі ад шматвяковага "маскоўскага палону", набыццё ёю духоўнай незалежнасці ад зменлівай і далёка не хрысціянскай расійскай дзяржаўнасці. Урэшце — на шляху канструктыўнага ўздзеяння Царквы на палітыку, якая ва ўмовах неразвітасці дэмакратычных інстытутаў альбо іх дэградацыі стыхійна схіляецца ў бок язычніцкага цэзарызму. З другога боку, каталіцкая і пратэстанцкая іерархіі павінны ўсвядоміць, што толькі праз нацыянальнае адраджэнне народаў і шматгалоссе нацыянальных культураў ствараецца сусветная хрысціянская цывілізаваная без войнаў і гвалтаў. Гвалтоўная альбо крывадушна "дэмакратычная" дэнацыяналізацыя цэлых народаў — гэта сапраўдны этнацыд, недаравальны грэх перад Богам і здрада гуманістычным традыцыям культуры.

**Уладзімір КОНАН.**

**Заканчэнне. Пачатак у NN 29--31.**



**За васемнаццаць гадоў свайго існавання Пінская харэаграфічная школа стала добра вядомай ва ўсёй Беларусі. Выпускнікі яе дзесяці выпускаў танцуюць у прафесіянальных і самадзейных калектывах, многія сталі выкладчыкамі-харэографамі, прадоўжылі сваю харэаграфічную адукацыю.**

**Нядаўна школа атрымала новае памяшканне. Яна размясцілася ў адрэстаўрыраваным старажытным будынку ў цэнтры горада.**

**НА ЗДЫМКАХ: дваццаць гадоў удзельнічае ў вядомым самадзейным танцавальным ансамблі "Палессе" Тамара БАРЛЕТ (у цэнтры), 18 гадоў яна працуе ў школе харэографам; рыхтуецца харэаграфічная кампазіцыя.**



# "НАШ ЖУРБОТНЫ ШЛЯХ ПРАЦЯГВАЕЦЦА..."

## (ПІСЬМЫ У. ДУБОЎКІ ЖОНЦЫ І БЛІЗКІМ СА СТАЛІНСКІХ ЛАГЕРАЎ І ЭТАПАЎ)

Працяг.
Пачатак у NN 28--31.

*8-09-45*

Дорогая Марилька!

Писал тебе о том, что получил твою посылку в самом начале этого месяца. Очень и очень благодарен за все, а особенно -- за заботы, память и внимание. Пока что я пользуюсь своим, хотя и скромным, но по нашему положению весьма ценным урожаем. Из присланного тобой расходую жир. Сладкого, конечно, уже нет. Ты ведь знаешь и помнишь, что в этом отношении меня никогда нельзя было назвать воздержанным. Остальное полежит до того момента, когда мои овощи будут израсходованы. Шутка шуткой, а картофель я варю два раза в день уже больше месяца, варил и тыкву. Представь себе, что из одной уцелевшей тыквы я получил уже штук пять, а, если не убьет мороз, сниму еще с полдесятка. А как она разрослась! Можно подумать, что их не меньше трех. Листья некоторые сантиметров до 60 (не считая стеблевых ножек). Но все это не так тебе и интересно. Живу пока попрежнему, работаю там же. Здоровье удовлетворительное. Питаюсь, как уже можешь сама заключить, сносно. Одежда и обувь по этому сезону есть. К зиме постараюсь кое-что сшить. Пиши, дорогая. Привет родным. Целую тебя. Поздравляю, конечно, с радостным Днем Победы. Ты, небось, уж рукой махнула была на мою судьбину при вести о начале войны у нас. Слава богу, что она так быстро и успешно для нашей Родины закончилась.

Забыл тебе сказать. У меня на лицевом счету ровно 400. Остальные помаленьку получил и с пользою израсходовал, гл[авным] образом на молоко. Целую тебя.

**Владимир.**

*6-01-46*

Дорогая Марилька!

Получил твое письмо от 6-12-45. Я писал тебе не только в октябре, но писал еще несколько раз, причем в каждом из писем сообщал свой адрес. Дело в том, что, хотя я оставался на месте, мой адрес менялся несколько раз, и последний, окончательный адрес я сообщил тебе в последних числах декабря, когда поздравил тебя с Н[овым] Годом. От души желаю тебе самое главное здоровья, ибо в наших условиях это самое основное и дорогое. Опечален тем, что опять пришлось тебе мучиться с ушами. Это, действительно, ужасная вещь. В начале 44 г. я болел гриппом, а затем начиналось осложнение на уши. Хорошо, что в самом начале врач дал мне каких-то порошков с камфорой, и боль быстро прошла. А то я думал, что мне сверлят мозг каким-то необычайным сверлом. В настоящее время здоровье мое вполне удовлетворительно. Материальные условия также. Обо мне пока что не печалься и не заботься. Если будет нужно -- я заранее попрошу поддержки. От Таси я также давно ничего не получал. Не знаю, возможно, что это связано с переменой адреса. Во всяком случае передай ей при случае мой привет. Не знаю, какие будут дальнейшие перспективы у меня, в частности, по службе. Возможно, что перебросят меня в вышестоящую организацию. Тогда попрошу к весне ботинки, если сохранились случайно, а если нет, то покупать во всяком случае не следует, т.к., безусловно, добуду здесь. Между прочим -- у меня всегда бывают затруднения с одеждой и обувью не потому, что мне не выдают ее здесь: вот пример -- у меня сейчас лежат новые брюки зимние, а я хожу в суконных (не в тех, которые ты прислала), потому что те новые зимние никак на меня не лезут. Так и во всем. Валенки лежали с первого снега под койкой, а я ходил в шубенках и, кажется, только сегодня обул валенки, потому что выменял в каптерке на большой размер. Вот как обстоит дело с моим ростом. Пиши, дорогая. Целую тебя.

**Уладзімір.**

*11-01-1946*

Дорогая Марилька!

Прежде всего сообщаю новый адрес: Известковая, Д.--В. ж.д., п.я. N 215/5. Жив, здоров. Пока что не могу жаловаться на свое здоровье, питанием, обмундированием также обеспечен. Если в дальнейшем положение изменится, я напишу. В общем ты за меня пока не беспокойся. Береги свое здоровье, я очень расстроился, когда узнал о твоей болезни. Дело в том, что у самого у меня болели уши, и я хорошо знаю, насколько это тяжело. Спасла меня камфора, которую я заливал в уши, и какие-то порошки с камфорой пил. В общем, дорогая, крепись. Если будем живы -- встретимся, все же остается сроку меньше. Пиши, родная, открыточками хотя. Не обижайся, если от меня когда письмо задержится. Я пишу довольно часто, но бывает, что и в пути где пропадет. Целую тебя. Привет родным.

**Владимир.**

*4-03-46*

Дорогая Марилька!

Получил твои письма декабрьские. Ты в них обижаешься на меня за то, что тебе редко пишу. Причина не в том, что я не писал, а в том, что мои письма к тебе не все попадали. Когда наша организация переходила из одного управления в другое -- регулярной доставки писем не было, не было и отправки. Все делалось случайным путем. Вот почему и могло пропасть письмо, не дойдя до почтового ящика. Думаю, что сейчас дело наладится. Я писал тебе как-то еще осенью, что сейчас наше питание значительно улучшилось. Поэтому продуктовых посылок ты можешь пока и не посылать. Если случайно сохранилось что-либо из обуви моего размера -- подбрось в посылке, но совершенно необязательно, во всяком случае не вздумай покупать. Вот что мне нужно обязательно -- это семена огородные всяких видов, а если попадут -- и цветочные. Ты, возможно, никогда не встречаешь Галену Филипович. Ее муж работал при кафедре почвоведения в с[ельско]х[озяйственной] академии. У них можно было бы достать всяких семян. Может быть, Тася сделала б это. Впрочем -- овчинка не стоит выделки, хлопоты по розыску обойдутся дороже семян. Во всяком случае, при возможности, постарайся подбросить семян безотлагательно, в том числе и чесноку. Я думаю, если ничего не изменится, посадить в этом году также всякой мелочи. Если есть в продаже химические карандаши -- подбрось парочку, а то и простых. Те, которые ты прислала, я использовал трети на две, а затем их "одолжили" без отдачи. В общем заказов даю тебе на небольшую посылку. Повторяю -- с питанием у нас положение далеко не плохое, для меня почти хватает вдоволь (хлеба 800 гр., два раза в день каша, три раза суп, рыба). Чего не хватит -- добуду на месте, а вот когда удастся огород посадить -- то и вовсе будет хорошо. Семян клади понемногу, каких достанешь, но не забудь и редиски, потому что она раньше всего поспевает. Только смотри -- посылай такие семена, какие имеются у тебя в запасе. Для меня специально ни в коем случае не покупай, я могу и здесь дополнительно добыть их в сельхозах нашего управления. То, что будешь посылать -- шли без задержки. Вот еще перебыть одно лето, зиму, а тогда как будто и встреча недалеко. Какой ужас, как подумаешь -- столько зим и столько лет канули в небытие и неизвестно зачем, почему, для чего... В общем, лучше про это не говорить и не думать. Бывай все же у Таси. Особенно ты на нее не обижайся -- жизнь меняет людей, своя рубашка ближе к телу, у нее семья, а это много значит. Привет тебе сердечный, моя дорогая Марилька. Никогда не беспокойся, если долго нет писем. Знай, что это какая-либо независящая причина. Целую тебя. Адрес у тебя последний правильный. Ты писала "какой-то Куль дур"[1], а это дальневосточный курорт. Можешь почитать в какой Энциклопедии медицинской. Только что мы им не пользуемся. Сегодня здесь, а завтра перебросят на сотни километров. Правда, и сейчас я от него в 12-ти километрах. Поинтересуйся, возможно, что в описании он будет выглядеть лучше, чем на самом деле. Это как фотографии у хороших фотографов. При возможности постараюсь тебе прислать хоть карандашную зарисовку своего обличья. Целую тебя. Привет родным.

**Володя.**

[1] Пас. Кульдур Аблучанскага раёна Яўрэйскай аўтаномнай вобласці.

*10-04-46*

Дорогая Марилька!

Послал тебе недавно письмо с фотокарточкой. На всякий случай посылаю вторую. Думаю, что одна дойдет. От тебя сравнительно давно нет писем. Надеюсь, что ты здорова, потому что весна на тебя влияла благотворно. Буду очень рад, когда получу от тебя хоть несколько строчек. При случае передай привет сестрице Тасе. Она недавно писала мне. Желаю тебе доброго здоровья. Пиши, любимая.

**Уладзімір.**

*10-06-46*

Дорогая Марилька!

Давно тебе не писал, ждал письма в ответ на фотокарточку. Почти одновременно получил и это письмо, и второе, где ты пишешь об операции. Сама прекрасно знаешь, насколько оно меня опечалило. Слава богу, если операция прошла удачно и не потребуется в дальнейшем повторить ее. Прошу тебя -- напиши мне обязательно, как ты сейчас чувствуешь себя. Напрасно ты забиваешь себе голову всякими ненужными размышлениями о будущих взаимоотношениях. Они определяются уже сложившимися и закрепленными жизнью. Нет никаких оснований для изменения их. Думай только об одном -- как укрепить свое здоровье, как сохранить его. Что касается меня, то я в настоящее время чувствую себя сравнительно неплохо. Здоровье -- сносное, питание -- также. Постараюсь писать тебе почаще. Целую тебя. Крепись, моя дорогая. Действительно -- остается почти что немного. Плохо только то, что это немногое плетется очень медленно. Я уж ничего не думаю о перспективах. После Алика -- эти перспективы стали для меня совершенно безразличными. Еще раз желаю тебе всего хорошего. Целую, моя родная. Привет родным.

**Владимир.**



**НА ЗДЫМКУ: у сталярнай майстэрні. Почат. 1953 г.**

*25-09-46*

Дорогая Марилька!

После приезда Ивана Романовича писал тебе и Тасе по письму. Думаю, что вы их получили. Сейчас, пользуясь отъездом на родину своего сотоварища -- Брейдо Меера Симоновича, пишу это короткое письмо. Если он сможет зайти к Тасе -- он расскажет о том, как я живу сейчас в Кульдуре, куда переехал из Карадуба месяц назад. Правда, меня хотят перетащить обратно в Карадуб, но мне здесь легче и лучше, поэтому сам я желания большого не имею возвращаться обратно. Жив, здоров. Очень хотел бы, чтобы такие же сообщения имел о твоем здоровье, о здоровье родных. С питанием пока по-старому, если не наступят какие-либо изменения. Как ты? В связи с болезнями, очевидно, у тебя хоз[яйс]тво нарушилось? Целую тебя. Привет всем.

*28 ноября 1946 года*

Дорогая Марилька!

В ночь с 25 на 26 октября 1946 г., возвращаясь с работы, я попал в 2-х метровую яму и при падении очень сильно ушиб левую ногу в области коленной чашечки, в бедре, в голени. Хорошо, что это было возле самого здания, где я работаю. На мой крик (это было без 10 минут 12 ч. ночи) вышли люди, работавшие еще в нашем учреждении, вытащили меня из ямы, вызвали врачей. Врачи, при беглом осмотре, констатировали перелом. Ночью же меня отправили специальным двигателем (мотором) по осенней дороге на ст. Известковую, в центральный лазарет, где я и нахожусь до настоящего времени. При рентгеноло[гическом] обследовании здесь установили, что перелома нет, но очень сильно повреждены коленные суставы. Вот уже месяц, как я здесь, опухоль упала, все приходит в норму, но пока что ходить без костылей не могу и то больше лежу. Во всяком случае нога у меня будет работать исправно, м[ожет] б[ыть], немного прихрамывать и буду. Какое совпадение! Когда я прибыл на Д[альний] Восток, в 38 году, я разбил в косточке правую ногу (в марте, числа 25 или 26), а сейчас левую. Не писал об этом раньше потому, что не хотел беспокоить. Сейчас положение определилось.

От вас всех, от тебя и Таси, давно не получаю писем. Последнюю записку от тебя получил тогда, когда приехал Скудский, в начале августа. Больше ничего не было вплоть до моего отъезда в лазарет. Не знаю, какая причина. Или ты не могла писать по каким-либо причинам, либо чего-либо в письмах нафилософствовали и их где-либо задержали. Убедительно прошу, настойчиво прошу -- поменьше всяких рассуждений в письмах. А еще лучше -- пиши открытки с короткими сообщениями о здоровье и об основных делах. Не забудь, что в последние месяцы всегда эти длинности невыгодны. Я пишу вот сейчас длинное письмо потому, что неожиданное мое приключение требует пояснения. А вот куда писать тебе ответ -- и сам не знаю. Лучше всего напиши по старому адресу открытку и такую же -- прямо копию, по такому адресу: ст. Известковая, Д.-В. ж.д., почт. ящ. N 215/49 (лазарет). Если я до прихода твоих открыток выпишусь и уеду в Кульдур, то я получу там открытку по старому адресу, а если задержусь здесь, то получу по новому. Вот, можно сказать, и все. Не везет нам в жизни ужасно. Не одно горе, так другое. Неужели так до конца дней? Насчет посылок ничего не заказываю. Знаю, что и тебе не легко. Если пробуду еще здесь, то пожалуй, придется чего попросить все же. За этот месяц меня крепко стянуло.

И все это чепуха. Лишь бы определилось положение мое в дальнейшем, через 8 месяцев. Больше бы ничего не хотелось.

Пиши. Привет, привет родным, Тасе, деткам ее. Целую вас всех. Искренне, от чистого сердца желаю всего наилучшего в предстоящем году, так как не знаю, когда сумею написать еще, а те письма могут опоздать к Новому Году. Поэтому вот еще из какой цели поздравляю вас всех, мои дорогие, любимые, родные, с наступающим Новым Годом и желаю, чтобы кроме доброго здоровья для вас всех он принес счастливую жизнь и радостные встречи. Целую.

**Владимир.**

Милая Мария Петровна![1]

Вчера получила, сегодня пересылаю вам. Действительно не везет. Что можно еще сказать!

У нас все по-старому. Привет от всех.

**Тася.**

[1] Прыпіска сястры Уладзіміра Мікалаевіча

**Публікацыю падрыхтавала Яніна КІСЯЛЁВА.**

НАШЫ СЛАВУТЫЯ ЗЕМЛЯКІ

# ЖЫЎ ПЕСНЯЙ

## ДА 100-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ КАМПАЗІТАРА, ДЫРЫЖОРА І ПЕДАГОГА АНТОНА ВАЛЫНЧЫКА

Ён заслугоўвае манаграфіі, помніка, памяці. Ён у жыцці быў сціплым, інтэлігентным, адукаваным чалавекам. Антон Міхайлавіч Валынчык. Харавы дырыжор. Кампазітар. Педагог. Заслужаны работнік культуры Беларусі.

Нарадзіўся наш зямляк у 1896 годзе ў вёсцы Мялькнавічы Слонімскага павета. У дзевятнаццаць гадоў быў ужо рэгентам вялікага салдацкага хору рускай арміі. У 1935 годзе скончыў вышэйшыя курсы Варшаўскай кансерваторыі пры Крамянецкім музычным ліцэі. Да 1939 года выкладаў спевы ў Клецкай і Наваградскай гімназіях, арганізоўваў там самадзейныя хоры. Вось што пра гэты час пісаў беларускі эміграцыйны часопіс "Віці" ў лютым 1957 года: "У 1927 годзе дырэкцыі Клецкай гімназіі ўдалося перацягнуць на працу як выкладчыка музыкі і спеваў вядомага кампазітара і слаўнага дырыжора Антона Валынчыка. Кампазітар А. Валынчык першым чынам узяўся за арганізацыю гімназійнага хору, у якім бралі ўдзел каля 60 вучняў. За тры месяцы працы Валынчыку ўдалося наладзіць першае выступленне хору. Дасканала выкананыя беларускія песні, пераважна кампазіцыі самога дырыжора, мелі надзвычайны поспех. З гэтага часу пры дапамозе хору гімназія праводзіла шырокую нацыянальна-культурную працу ў самым Клецку ды ў навакольных вёсках, даючы частыя канцэрты. У наступным 1928 годзе кампазітар Валынчык арганізаваў струнны аркестр, які налічваў 50 асобаў. Ладжаныя канцэрты ды драматычныя паказы, маючы добры поспех, папаўнялі пустую касу гімназіі... У 1930 годзе кампазітар Валынчык перабраўся ў Наваградак і там працаваў у Наваградскай беларускай гімназіі".

Пра музычную дзейнасць нашага земляка ў Наваградку я папрасіў падзяліцца ўспамінамі даследчыка нашай нацыянальнай культуры, актывіста беларускага руху на Віленшчыне Аляксея Анішчыка. Вось што ён расказаў: "Антон Валынчык, які працаваў у Наваградскай гімназіі, арганізаваў выдатны хор і аркестр, бадай, найлепшыя ў Заходняй Беларусі. Пра канцэрт у беларускай гімназіі пісала тады музыказнаўца Ірэна Здановіч у ваяводскай газеце "Жыце Новогрудзке": "Праграма была вельмі разнастайная. Разнароднасць песень, перапleценая з канцэртамі на мандалінах і танцамі, пакінула незнішчальнае ўражанне... Цудоўнай была кампазіцыя Валынчыка "Вечарам". На гэтую мелодыю я звярнула ўвагу яшчэ намнога раней. Часта, ідучы вечарам дахаты, я з-за муроў беларускай школы слухала выплываючую адтуль сумную, журботную песню глухога вечара, якая раптам ператваралася ў сімфонію птушынага шчэбету, пошуму лісцяў. Спынялася я тады і доўга ўслухоўвалася ў гэтую дзіўную, нязнаную мелодыю... Публікі было вельмі многа, і яна з энтузіязмам і сімпатыяй вітала кожнаразовае выступленне хору... Наваградак, 1930 год".

Не толькі спадарыня Здановіч цаніла высока талент Валынчыка. Выкладчык музыкі і спеваў дзяржаўнай польскай гімназіі прафесар Лазіньскі не раз прыводзіў свае класы ў гімназію, каб паслухаць рэпетыцыі нашага хору. Дзеці займалі месца на задніх лаўках і ціхенька сядзелі да самага канца рэпетыцыі. Прафесар глыбока шанаваў Валынчыка і адкрыта пакланяўся яго самабытнаму таленту. Кожнаму, хто сустракаўся з Валынчыкам, назаўсёды запомніліся высокая культура і шчырая спагада гэтага чалавека. Яго сонечны характар нагадвае мне дзядзьку Язэпа Драздовіча і Пётру Сергіевіча. Відаць, гэта адметная рыса вялікіх мастацкіх талентаў".

У 1947 годзе Антону Валынчыку даручылі стварыць міжабласны Маладзечанскі ансамбль песні і танца. І ён адправіўся ў дарогу, ездзіў і хадзіў па беларускіх гарадах і вёсках і ўсіх, хто любіў музыку і песні, збіраў у ансамбль.

Аднойчы быў такі выпадак. Крочыў Антон Міхайлавіч па адной з вуліц Пінска. Раптам чуе: аднекуль даносіцца песня. Цудоўны дзявочы галасок спявае: "Ой, рэчанька, рэчанька...". Уважліва прыслухаўся і накіраваўся туды, адкуль лілася песня. Увайшоў у маленькую чайную і спыніўся ля ўваходу. Там нікога не было, акрамя маладзенькай дзяўчынкі. Яна прыбірала са сталоў і спявала. Убачыўшы Валынчыка, дзяўчынка збянтэжылася і спыніла песню. "Спявай, спявай. Гэта вельмі прыгожа", -- сказаў ёй Антон Міхайлавіч. І калі яна закончыла спяваць, ён дадаў: "А можа ў наш ансамбль пайшла б?". Яна дала згоду...

Так папаўняўся яго калектыў. Хутка ў ім было сорак юнакоў і дзяўчат, якія прыйшлі сюды з гушчы народнай. Так працягваў крочыць па жыцці з песняй гэты ўлюбёны ў сваю справу чалавек. Ён кіраваў самадзейнымі ансамблямі і харамі ў Мінску, Маладзечне, Ашмянах, Горках, Пухавічах і ў іншых гарадах Беларусі. І ўсюды яго калектывам спадарожнічаў нязменны поспех.

Антон Валынчык валодаў амаль усімі музычнымі інструментамі. Але найбольш паважаў скрыпку і віяланчэль. Вучыўся ён у кампазітара А. Туранкова, а таксама ў вядомага харавога дырыжора А. Ягорава. З 1961 да 1963 года быў хормайстрам Гродзенскага народнага ансамбля песні і танца "Нёман". З 1965 да 1971 года наш зямляк працаваў кіраўніком Гродзенскай народнай харавой капэлы настаўнікаў, а пасля -- загадчыкам кафедры музыкі і спеваў Гродзенскага педінстытута...

Антон Валынчык быў не толькі арганізатарам добрых хораў, але і выдатным кампазітарам. Ён з'яўляецца аўтарам шматлікіх песень, у тым ліку "За праўду", "Устань ты, старонка", "Зайшло ўжо сонейка", "А зязюлька кукавала", "Не бядуй", "Гэй, наперад" на словы Янкі Купалы, "Ліпы старыя", "Касцы", "На сенажаці" на словы Якуба Коласа, "Слаўся, наш беларускі" на словы Адама Русака і многіх іншых. Яго даўні сябра, заслужаны настаўнік Беларусі Апанас Цыхун, які зараз жыве ў Гродне, успамінае: "З Антонам Міхайлавічам Валынчыкам я часта сустракаўся, калі ён ішоў са спінінгам, з вудамі і іншымі рыбацкімі прыладамі на Нёман. Апошні раз, згадваю, быў на Каляды ў ягонай кватэры разам з самадзейным кампазітарам Яўгенам Петрашэвічам. Валынчык тады ўжо цяжка хварэў: перанёс інсульт. Яго жонка Вольга Данілаўна выканала нам песню, якую даўней спявалі гімназісты Клецкай гімназіі кожны дзень перад пачаткам заняткаў і пасля іх: "Вучыся, нябожа, вучэнне паможа", здаецца, на словы Янкі Купалы".

Хаця гэты выдатны дырыжор і кампазітар стараўся прынесці як мага больш карысці роднай Бацькаўшчыне, але наменклатуршчыкі не любілі Антона Міхайлавіча. Ён без усякай прычыны быў адхілены ад кіраўніцтва ансамблем песні і танца "Нёман", які меў ганаровае званне народнага. "Прышывалі" яму ярлыкі "неблагонадежный", "националист". Пакрыўджаны ўладамі, ён памёр 13 лістапада 1985 года. Пахаваны на новых могілках горада Гродна. На магіле сёння нават няма помніка, пастаўлены просты жалезны крыж. Жонка яго, сваячка вядомага кампазітара Аляксандра Шыдлоўскага, Вольга Данілаўна жыве на старым месцы, часта ўспамінае Антона Міхайлавіча. Яна і зараз спявае ў царкоўным хоры..." Як бачыце, каментарый тут не патрэбны.

**Сяргей ЧЫГРЫН.**



**Перш чым развітацца з гледачамі да будучага сезона, Нацыянальны беларускі акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы вырашыў прыцягнуць да сябе ўвагу новай пастаноўкай. Тут адбылася прэм'ера спектакля "Ромул Вялікі" па п'есе швейцарскага пісьменніка і драматурга Фрыдрыха Дзюрэнмата. Пераклад яе на беларускую мову ажыццявіў Мікалай Матукоўскі, а паставіў мастацкі кіраўнік тэатра Валерый Раеўскі.**

**Спектакль, жанр якога пазначаны як "гістарычна недакладная камедыя", абяцае стаць падзеяй у культурным жыцці рэспублікі. Над стварэннем яркіх вобразаў нямала папрацавалі славутыя купалаўцы і іх маладыя калегі. Сваім майстэрствам гледачоў парадуюць Генадзь Аўсяннікаў, Аляксандр Падабед, Аўгуст Мілаванаў, Мікалай Кірычэнка, Павел Дубашынскі, Валерый Філатаў, Віктар Манаеў, Аляксандр Лабуш, Віталій Радзько, Уладзімір Кін-Камінскі, Вячаслаў Паўлюць, Тамара Пузіноўская, Ганна Ельяшэвіч і іншыя.**

**Галоўны мастак новай пастаноўкі-- Барыс Герлаван, музыку напісаў кампазітар Аляксандр Рананскі.**

**НА ЗДЫМКУ: сцэна са спектакля.**

**Фота Аркадзя НІКАЛАЕВА.**

## З НОВЫХ ВЕРШАЎ

**Мікола АЛТУХОЎ**

### ПАХНЕ ПОЛЕ

Пахне поле сонцам і зарою,
Звонкаю світальнаю расой,
А яшчэ --
Духмянай, залатою,
Прамяністай жытняю пылцой.

Свецяцца, як зорачкі, зярняты,
І, здаецца, поле не дажджом,
А кваском прапахла
Хлебным, хатнім
І вячэрнім цёплым малаком.

Працавала сонейка нямала,
Аддавала полю водар, смак.
Калі б шчасце водар вылучала,
Пахла б шчасце,
Відавочна, так.

### КАЗКА

Лес песню пяе задушэўна,
А над аксамітнай ракой
Бярозка стаіць, як царэўна,
Ў сукенцы з парчы залатой.

У медных даспехах дубочак
Вартуе грыбы давідна.
Вярба, як русалка, шапоча
Над пнём, што накшталт лесуна.

Прырода нас зачаравала,
Нас вабіць яна нездарма.
А кажуць, што цудаў не стала,
А кажуць, што казак няма.

### ПАЛЯВОЙ СЦЯЖЫНКАЙ

Іду сцяжынкай, патанаю ў жыце,
Любуюся прасторам залатым,
А жаўрукі спяваюць у блакіце,
Нібыта ў сэрцы шчокаюць маім.

Няма на свеце лепшага багацця
І характва, куды ты ні зірні.
Без шырыні палёў і сенажацей
Душэўнай неставала б шырыні.

І не здзіўляюся я звонкай раніцою,
Калі над полем носіцца пылца,
Як можа сэрца, гэткае малое,
Ўмясціць зямлю, якой няма канца.

**Уладзімір ПЕЦЮКЕВІЧ**

### ЗЯМЛЯ МАЯ

Зямля мая, табой народжаны
З цяпла карэнняў векавечных,
Хоць невялічкі і няўходжаны,
Я твой, я твой жывы карэньчык.

І прарасці імкнуся дрэвам я,
Узняцца кронаю разгалай,
Каб ты ў сухмень і дні залеўныя
Пад ім утульна адчувала.

Зачараваны і аблашчаны
Тваіх легендаў-казак словам,
Цябе я чую ў мове матчынай,
Як гул вякоў і шум дубровы.

Узгадаваны, не абдзелены
Тваёй трывогай і надзеяй,
Цябе я бачу непрыземленай --
Табой, як небам, летуценю.

О Беларусь, святлом ахрышчаны
Тваіх бяроз і зорнай высі,
Хай сто разоў я буду знішчаны,
Ніхто мяне не перахрысціць!

### БЕЛАРУС -- Я, КРЫВІЧ...

Беларус -- я, крывіч, непакорнай крыві,
Дзед і прадзед былі крывічамі.
Свет спазнаў нораў мой: не чапай,
не гняві --
Не ўзмахну я ніколі мячамі.

Мірна-згодна жыві,
з добрым сэрцам прыедзь --
Хлебам-соллю заўсёды прывечу,
Дам паслухаць Курган
и Хатынскую медзь:
Жураўлінае вечнае веча.

Каб адчуў ты: з якой я радзіўся душой,
Дам узвысіцца духам вялікіх --
Пакланюся з табой Ефрасінні святой,
Асвячуся Скарынавым лікам.

Дам напіцца з крыніц, што
здаўна крывічоў
Наталяюць адвагай свабоды...
А зачэпіш -- ну што ж! --
не малі ты Багоў,
Не пытайся, якога я роду.

У званы зазваню --
шар зямны ўскалыхну,
Хістанецца Сафійская вежа --
І паўстане гара, груганы -- аб скалу,
Свет пазбавіцца крылаў драпежных.

**Генадзь АЎЛАСЕНКА**

* * *

Вясновая ноч над зямлёю
пяшчотна плыла...
І раптам
зямля задрыжэла,
працятая болем...
Нябачна,
нячутна
бяда папаўзла па-над полем!
Па вёсках,
па сэрцах,
па лёсах людскіх папаўзла!

Бяда напаўзала
няўмольная,
быццам вайна!
Яна
не страляла,
але і жыцця не давала!
Яна
забівала...
Павольна,
ды ўсё ж забівала...
Нябачна,
нячутна,
ды ўсё ж забівала яна!

Якое праклядце
на нашым народзе ляжыць!!
Ну хто нас,
за што нас
так жорстка,
так страшна карае!!
Паўзе па народзе бяда
і даніну збірае...
Па ўсёй Беларусі
крыжы,
і крыжы,
і крыжы...



# ТАКОЕ НЕЗВЫЧАЙНАЕ СВЯТА – ДЗЕНЬ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

На ім былі іншыя прамоўцы, іншыя сцягі і не супадаючыя з афіцыйнымі погляды на незалежнасць. Адно цешыць, што ўсё прайшло спакойна, без міліцэйскіх дубінак, сапраўды дэмакратычна. Хай свята і не аб'ядноўвала людзей, асабліва палітыкаў, але яно і не выклікала руху "сцяна на сцяну!"

А што ж народ! Народ проста адпачываў і весяліўся. Адны, надаючы нейкі асаблівы сэнс гэтаму дню, іншыя -- нават не ведаючы, што 27 ліпеня -- Дзень незалежнасці суверэннай Беларусі.

Калі не большасці, то многім -- лепей бы зарплата ў пару, гарантаваная праца ды спакойнае жыццё. "Што мне з той незалежнасці, калі няма за што купіць хлеба, калі няма куды дзіця падзець летам, калі лякарствы не па кішэні". Вядома, жыццёва важныя пытанні. Але калі чалавек наважыўся сваімі рукамі пабудаваць дом, ён будзе недаядаць, ашчаджаць на ўсім, адкладваючы сытасць і камфорт на "потым". А такі збудуе! Бо ёсць ясная мэта.

Раней ці пазней мы ўсё ж збудуем наш Беларускі Дом.

**Ян ГІЛУЦЁВІЧ.**

НА ЗДЫМКАХ: 27 ліпеня на вуліцах і плошчах Мінска.

Фота Віктара СТАВЕРА.





# ЭСТАФЕТУ ДНЯ БЕЛАРУСКАГА ПІСЬМЕНСТВА І ДРУКУ ПРЫМАЕ НАВАГРУДАК

Трэці раз у першую нядзелю верасня ў нашай рэспубліцы будзе адзначацца Дзень беларускага пісьменства і друку. У мінулыя гады цэнтрамі ўрачыстасцей станавіліся Полацк і Тураў, цяпер жа эстафету свята прыме старажытная навагрудская зямля. Маючай адбыцца падзеі было прысвечана першае пасяджэнне аргкамітэта па святкаванню Дня беларускага пісьменства і друку, што прайшло ў прэсцэнтры сталічнага Дома прэсы.

Хоць праграма будучага свята канчаткова яшчэ не вызначана, але, паводле задумы, у ім захаваюцца ўжо накопленыя традыцыі. 1 верасня ўрачыстасці пачнуцца ў Навагрудку гісторыка-мастацкім шэсцем, якое прадоўжыцца кніжным кірмашом і фальклорным мюзіклам "Цар Максіміліян" паводле матываў народнага падання. Па асобнай праграме пройдзе дзіцячае свята, у час якога па традыцыі будзе сабрана дабрачынная бібліятэка. Ну а якое ж свята без песень, музыкі і танцаў? Прычым арганізатары паабяцалі, што акрамя нашых праслаўленых артыстаў ва ўрачыстасцях прымуць удзел і госці з суседніх дзяржаў, выступленні якіх стануць пацвярджэннем адзінства славянскіх культур. Завершыцца свята вялікім гала-канцэртам на Замкавай гары ў Навагрудку.

Аднак святочныя мерапрыемствы пройдуць не толькі ў райцэнтры. Частка ўрачыстасцей пад дэвізам "З мінулага ў рэчаіснасць і з рэчаіснасці ў будучыню вядзе нас друкаванае слова" намечана правесці ў пасёлку Любча, дзе існавала адна з першых на Беларусі друкарань. Не міне свята і праслаўленую вёску Лаўрышава, дзе было створана Лаўрышаўскае Евангеле, якое захоўваецца цяпер у Кракаве. Дарэчы, у Дзень беларускага пісьменства і друку факсімільная копія гэтай кнігі будзе перададзена мясцовым жыхарам.

А напярэдадні свята, як звычайна, ад Свята-Духава кафедральнага сабора ў Мінску возьме старт навукова-творчая экспедыцыя "Дарога да святыняў", якая даставіць Нязгасны агонь, запалены ля труны Гасподняй, на навагрудскую зямлю.

ГОЛАС ВІЛЕНШЧЫНЫ

# СПАДЗЯЕМСЯ НА ВАШУ ПАДТРЫМКУ

6 ліпеня 1996 года ў засценку Вашунава Докшыцкага раёна Віцебскай вобласці на базе гісторыка-этнаграфічнага музея "Засцянковая хатка", які з'яўляецца структурным падраздзяленнем ТБМ, адбылося свята перад Купаллем на тэму: "А гармонік грае, грае", прысвечанае 5-годдзю ТБМ Віленшчыны.

Тут, у Вашунаве, у цудоўным куточку роднай зямлі -- Беларусі, сіламі ТБМ Віленшчыны створаны унікальны музей "Засцянковая хатка". Ён уключае хату-музей з цікавымі экспанатамі, два прыдарожныя крыжы, пуньку, лазню, сажалку, сад-агарод і г. д. Тут ужо трэці год запар праводзяцца цікавыя імпрэзы напярэдадні Купалля. Традыцыя прыжываецца, і людзі навакольля аб гэтым ведаюць і прымаюць удзел з радасцю.

Сёлета падрыхтоўка і само народнае свята праведзены дасканала. Пасля агляду музея-запаведніка адбылося набажэнства з удзелам ксяндза з Парафіянаўскага касцёла -- святая імша ля крыжа і асвячэнне абраза "Святая сям'я". Дарэчы, абраз намаляваў мастак-беларус з Кавальчукоў Віленскага раёна спадар І. Навіцкі. Потым ксёндз асвяціў месца пад капліцу, якая будзе насіць імя "Святая сям'я", і часовую мемарыяльную дошку, што нагадвае аб гэтай падзеі.

У праграме свята былі і выстава "Віленскія вербы", і мастацкая частка, і спартыўныя мерапрыемствы. А скончылася ўсё святам Купалля.

Трэба дадаць, што беларусы-віленчукі ў вёсцы Вялікія Сітцы агледзелі 300-гадовы дуб-волат, які знаходзіцца ў мясцовым парку, былой панскай сядзібе. Вяртаючыся назад у Вільню, заехалі на возера Нарач. Уражанняў у сяброў ТБМ і гасцей (сярод іх былі беларусы, рускія, палякі, літоўцы) было шмат, але найярчэйшае -- ад гісторыка-этнаграфічнага музея "Засцянковая хатка", які размешчаны ў 7 пакойчыках. Чаго тут толькі няма!

Горка, што ані мясцовыя органы ўлады, ані грамадскія арганізацыі Беларусі да гэтага не праяўляюць самай маленькай увагі. Усё трымаецца на энтузіязме, і гэта прыклад для ўсіх, хто на справе за беларускае нацыянальнае Адраджэнне.

Цяпер галоўнае -- пабудаваць капліцу, макет і праект якой ужо ёсць, не хапае толькі грошай. Можа хто з нашых суайчыннікаў адгукнецца і дапаможа нам у нашай справе?

Людзі добрыя! Нашы суайчыннікі ў Беларусі і за мяжой! Наведайце наш музей і матэрыяльна завяршыць нашу ТБМ-аўскую справу.

Спадзяёмся на вашу падтрымку. Упэўнены, што тут, у Вашунаве, будзе створаны рэлігійна-культурны цэнтр нашага беларускага нацыянальнага Адраджэння.

Няхай дапаможа нам Бог!

**Юры ГІЛЬ,**
адказны сакратар ТБМ імя Ф. Скарыны віленскага краю, дэпутат Віленскага раёна.

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:
220005, Минск, праспект Ф. Скарыны, 44.

Тэлефоны: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.



Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск".
Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).
Тыраж 3 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 828.
Падпісана да друку 6.8. 1996 г.